


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 22 (304) — Нядзеля, 27 травеня 1956 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


# Новая савецкая правакацыя

Сьмерць Сталіна стварыла вялікае замяшаньне й перапалох у радох яготных услужлівых і адданых вучняў тыпу Хрушчова, Маленкова, Булганіна ды да іх падобных. Вычуваючы сваю слабасьць і няздатнасьць да кіраваньня, ды баючыся выбуху народнага гневу, апошнія — сяньняшнія дыктатары — пайшлі на вялікую правакацыйную хітрасьць: яны зьвінавацілі і зьліквідавалі Бэрыю і быццам-бы пачалі клапаціцца аб лёсе народу, аднак мэты не дасягнулі, бо чорны калаўрот няшчасьцяў і няволі круціўся ня рукамі аднаго Бэрыі, а ўсяе камуністычнае партыі пад дыктатарствам Сталіна. Перапалоханыя спадкаемцы «правадыра», каб як-небудзь прыбраць да рук народы ды «пусьціць дым у вочы народным масам вольнага сьвету і захаваць бальшавіцкую сыстэму, пайшлі на апошняе — дэтранізацыю Сталіна ды, стукаючы кулакамі ў грудзі, пачалі гаварыць пра ягоныя памылкі і «плакаць» пра ахвяры, укаранаванага імі-ж культу памёрлага дыктатара, і чуць не гаварылі: «Бачыце, як баліць нашае сэрца»... Але сьвет «раскусіў» і гэты манэўр. Адначасна прафэсійныя інтрыганы, Хрушчоў і Булганін, пачалі навязваць пэрсанальныя кантакты зь кіраўнікамі дэмакратычных краінаў, убівацца ў давер, ды запрашаць да сябе гасьцей і цешыць іх прыемнымі казкамі пра тое, што ніколі ня збудзецца. Ану-ж і паверацьць...

Заяву працаўніка МВД праваднікa дэлегацыі французскіх сацыялістаў аб ліквідацыі канцэнтрацыйных лягероў у Савецкім Саюзе ды іншыя рэформы ў сыстэме прымусовае працы нельга прыймаць усур'ёз: яна прадыктавана ЦК КПСС і разьлічана выключна на прапагандовы эфэкт у вольным дэмакратычным сьвеце, мэтай якога зьяўляецца ўмацаваньне аўтарытэту «калектыўнага кіраўніцтва», што здэтранізаваўшы Сталіна, нібыта імкнецца ня толькі палепшыць матарыяльны стан народаў, але й зьліквідаваць канцэнтрацыйныя лягеры ды зрабіць нейкія рэформы ў сыстэме прымусовае працы Вельмі добра... Аднак, у сувязі з гэтым паўстае цікавае пытаньне: ці могуць бальшавікі пайсьці на такі рызыкоўны крок? Прыпусьцім, што «майстры магічных мэтамарфозаў» згадзіліся-б, і ўсё яно так і сталася — Савецкі Саюз без канцлягераў і прымусовае працы... Якое нечаканае шчасьце!.. У гэткім выпадку ўзьнікае другое і ўжо вельмі інтрыгоўнае пытаньне: што-б тады рабілі бальшавікі і што-б сталася ў Савецкім Саюзе ці, навет, з Савецкім Саюзам і самімі бальшавікамі? Мы ўлічваем усё: і тое, што вярблюд можа пралезьці праз іголкавае вушка, і тое, што можна дыктаваць народам загады і страшыць іх кіраваньнымі зь міжплянэтных прастораў радыяактыўнымі праменьнямі ці іншымі сіламі, і трыманыя ў Крамлі новыя тактычныя вынаходзтвы ды іншыя фактары, аднак, з нашых зусім не прароцкіх прадбачваньняў выходзіць лягічны адказ: самі бальшавікі нічога-б ужо не рабілі, яны былі-б зьнішчаныя народам разам з канцэнтрацыйнымі лягерамі; у межах сяньняшняга Савецкага Саюзу пачалося-б будаваньне новага жыцьця свабодалюбных народаў і пра Савецкі Саюз засталіся-б найстрашнейшыя ўспаміны. Усё гэта, разам узятае, гаварыла-б пра тое, што бальшавіцкая партыя пайшла на гэты крок, вычуваючы сваю поўную бездапаможнасьць. Але-ж да гэтае бездапаможнасьці бальшавікі ніколі ня прызнаюцца, як ніколі й ня пойдуць на ліквідацыю прымусовае працы. Дыктатура ня можа існаваць бяз прымусу.

**Папершае,** паняволеныя бальшавікамі народы зьўляюцца сьмяротнымі ворагамі камуністычнае партыі й пастаўленых ёю камуністычных урадаў, а гэта значыць, што калектыўныя дыктатары будуць, як і дасюль, весьці жорсткае змаганьне з гэтымі народамі і «перавыхоўваць» іх у мясьцінах цяжкае прымусовае працы ў розных ейных формах;

**Падругое,** нацыянальна - вызвольны рух паняволеных народаў расьце з кожным днём і, як лягічны вынік, ставіць перад вялікай небясьпекай камуністычную партыю і Савецкі Саюз наагул, а гэта значыць, што «калектыўныя правадыры» яшчэ з большай жорсткасьцяй будуць весьці змаганьне з гэтымі народамі й вынішчаць іх у мясьцінах цяжкае прымусовае працы ў розных ейных формах;

**Патрэйцяе,** вольны дэмакратычны сьвет, тое, што бальшавікі завуць «капіталістычным акружэньнем» і чаго страшэнна баяцца, хоць і прыкідаюцца небаязьлівымі, уплывае і будзе ўплываць на рост антыбальшавіцкага змаганьня паняволеных народаў, а гэта, у сваю чаргу, абазначае, што бальшавікі ў даўно заплянаваным наступе на вольны сьвет будуць весьці наступ на «ворагаў народу» (ворагаў дыктатуры, разумеецца) і дабіваць іх у мясьцінах цяжкае прымусовае працы ў розных ейных формах.

Канцэнтрацыйныя лягеры, як й прымусовая праца наагул, ня могуць быць зьліквідаваныя і з увагі на краіны-сатэліты, народы якіх даўно ўжо «варацца» ды будуць «пераварвацца» ў савецкім катле аж да зьнішчэньня бальшавізму, як гэта маем прыклад з балтыцкімі народамі, і апошнім часам — з тысячамі няшчасных людзей камуністычнага Кітаю.

Праўда, бальшавікі могуць «зрэфармаваць» сыстэму прымусовае працы, — канцлягеры, скажам, назваць «папраўча-працоўнымі калёніямі», «дамамі адпачынку псыхічна хворых» і навет «санаторыямі сацыялізму», а нявольніка, напрыклад, — «дабраахвотным будаўніком камунізму», але-ж гэтым ня пераменіцца сутнасьць савецкай катаргі. Гэта-ж было-б тым самым, як ЧК—ГПУ—НКВД—МГБ—МВД або Камінтэрн—Прафінтэрн—Камінформ ці КПБ—КПСС.

Як ні круці, але-ж сам СССР — гэта-ж і ёсьць нішто іншае, як канцэнтрацыйны лягер паняволеных народаў або, як гавораць падсавецкія людзі, — Саюз Самага Страшэннага Рабства.

Вось чаму народы вольнага сьвету, як і паняволеныя бальшавікамі, ведаюць, што заява працаўніка МВД пра скасаваньне канцэнтрацыйных лягероў у СССР зьяўляецца нічым іншым, як новай савецкай правакацыяй.

**У. Г.**



**Іван Луцкевіч**
**Да 75-ай гадавіны з дня нараджэньня (гл. артыкул «Рыцар Пагоні»)**

# Патрэба канцэпцыі

Важнасьць пытаньня паднятага А. Будзічам у ягоным артыкуле «Нацыянальнае й сацыяльнае» (гл. «Б-на» № 299—300) ня толькі заслугоўвае, але й патрабуе глыбейшага прадыскутаваньня на бачынах нашае прэсы.

Асноўную думку А. Будзіча можна зрэзюмаваць ягонымі-ж словамі: «Мы канцэнтруем бадай усю ўвагу на аспэкцэ нацыянальна-культурным. Рацыя-ж беларускае незалежніцкае глебы настойліва вымагае ад нас увагі сацыяльна-эканамічным праблемам будучай Беларусі».

Нельга не згадзіцца з аўтарам. І тут-жа трэба зазначыць, што мы яшчэ да гэтага часу наагул ня маем ясна распрацаванае пазытыўнае незалежніцкае канцэпцыі — ні ў чыста палітычным аспэкце, ні ў сацыяльна-эканамічным. Мы за сваю незалежную дзяржаву! Якую? Мы супраць усялякіх дыктатураў! Але — за што? Мы за дэмакратыю! Якую? Мы супраць калгасаў! Што на іх месца?

Там, дзе мы **супраць** нечага — ня ведаем **за што** мы стаімо. Там, дзе кажам **за што** — ня ведаем, **як** гэтае «што» мае канкрэтна выглядаць. Інакш кажучы, нам здаецца, што хопіць здабыць незалежнасьць — каб усе нашыя праблемы былі аўтаматычна разьвязаныя. Нашая мэта — гэта незалежнасьць, собская дзяржава, — кажам мы. Вось-жа гэтага замала. Незалежнасьць, собская дзяржава — гэта толькі адзін зь першых этапаў, беспасярэдняя мэта, якая з момантам дасягненьня яе, становіцца толькі сяродкам запраўднае й апошняе мэты — свабоды й дабрабыту народу. У гісторыі мы можам знайсьці шмат прыкладаў, дзе сама толькі незалежнасьць не гарантавала яшчэ магчымасьці дасягненьня гэтае апошняе мэты. Дзеля таго, распрацоўваючы нашую незалежніцкую канцэпцыю, мы мусім у яе ўкладаць такі зьмест, які-б меў усе дадзеныя на тое, каб вызбыцца падобных памылак.

«Пытаньне незалежнасьці Беларусі будзе залежаць ад ступені распрацоўкі і распаўсюджанасьці, а таксама ад прывабнасьці беларускае незалежніцкае канцэпцыі, якая змагла-б знайсьці сабе на бацькаўшчыне вырашальную колькасьць прыхільнікаў», — слушна піша Будзіч. Бяручы гэта на ўвагу, паўстае пытаньне: як-жа дасягнуць гэтую належную ступень распрацоўкі, распаўсюджанасьці й прывабнасьці? Пытаньне самое распрацоўкі, бязумоўна, гэта толькі нашае заданьне; на бацькаўшчыне на гэта няма найменшых магчымасьцяў. Пры гэтым, належная распрацоўка можа мець месца толькі там, дзе сатруцца з сабой самыя розныя, навет зусім супрацьлежныя пагляды; толькі ў гэткім выпадку можна пазбыцца ненармальных і часамі шкодных скрайнасьцяў.

Распаўсюджанасьць і прывабнасьць. Першай перадумовай, каб зрабіць нешта для народу прывабным (прывабнасьць-жа перадумова распаўсюджанасьці) — гэта духовая лучнасьць з народам, веданьне ягонае псыхалёгіі, беспасярэдніх і сталых імкненьняў. Возьмем вымоўны прыклад з рэвалюцыі 1917 году. Селянін тады абсалютна не арыентаваўся, што такое сацыялізм, дэмакратыя, міжнародная салідарнасьць працоўных і г. д., але ён пачуў і зразумеў, што такое «зямля сялянам!» Ён мог і далей маліцца за цара, але гэты лёзунг аб зямлі аўтаматычна ставіў яго на баку рэвалюцыі. Гэты прыклад паказвае на тое, што масы не патрабуюць шырока распрацаваных канцэпцыяў і праграмаў зашыфраваных у складаную й абстрактную тэрміналёгію, якая ім нічога ня кажа. Тут патрэбна колькі ясна спрэцызаваных канкрэтных пунктаў, якія найбольш выразна прамаўляюць да народнае сьведамасьці. І вось нацыянальны момант тут мусіць быць вельмі цесна зьвязаны з сацыяльна-эканамічным. Аднак незалежнасьць мусіць ставіцца не як мэта, а як толькі **неабходны сяродак** дасягненьня дабрабыту й свабоды. Пры гэтым самымі паняцьцямі як «дабрабыт» і «свабода» трэба паслугоўвацца вельмі асьцярожна і мець на ўвазе, што паняцьці гэтыя настолькі скалечаныя савецкай дыялектыкай, што ўжытыя ў вагульных заявах, бязь ніякіх удакладненьняў, наўрад ці змогуць выклікаць патрэбнае рэха ў сьведамасьці народу. Да падобнага тыпу паняцьцяў трэба далучыць і такія, як «дэмакратыя», «сацыяльны», «народны» і г. д.; наагул трэба апэраваць тэрміналёгіяй такой, якая ня выклікае непажаданых асацыяцыяў ці падвойнай інтэрпрэтацыі. І толькі такая зрэзюмаваная, сканкрэтызаваная канцэпцыя мае найбольш дадзеных на тое, каб стацца прывабнай.

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Паказьнік беларускіх матарыялаў

Сур'ёзная публіцыстыка вымагае сур'ёзнае аргумэнтацыі, вымагае перш за ўсё фактаў, на якіх, як на падмуроўцы, можна будаваць высновы, ілюстраваць тэзы ці апраўдваць цьверджаньні. Факты — гэта паветра публіцыстыкі. Бязь іх нашыя аргумэнты ніколі ня будуць дыхаць...

Калі мы бярэмся за падсунутую нам бегам падзеяў тэму, дык першая праблема, якая ўзьнікае ў нас — гэта пытаньне, адкуль узяць дадзеных, фактаў, каб залажыць зь іх патрэбную для артыкулу аснову. Зрэшты, ці ня лепш з агульнага разважаньня перайсьці на прыклады.

Вось, скажам, ня так даўно, прэсавае агенцтва Ройтэр падало з Масквы вестку аб афіцыяльнай «ліквідацыі», зьліквідаванага хіба дзесьці разам з Бэрыям, былога міністра дзяржаўнай бясьпекі БССР Цанавы. Вестка наколькі лякянічная, настолькі цікавая. Але што думаць аб самой падзеі? Што за тып Цанава? Хто ён? Калі быў міністрам? Якімі тысячамі вымяраюцца ягоныя забойствы?... Цэлы шэраг падобных пытаньняў адразу-ж узьнікае перад намі. Частковыя адказы на іх могуць паслужыць матарыялам для новага артыкулу, да новых вывадаў ці насьвятленьняў. Разам з гэтым, нашая слабая памяць няўпэўнена падказвае, што пра Цанаву дзесьці ўжо пісалася. «Дзесьці ў ,Б-не', — пачынаем прыпамінаць мы, — быў апублікаваны сакрэтны дакумант, падпісаны Цанавам. Пасьля... пасьля ці ня Менскі пісаў штосьці на гэтую тэму... Што гэта магло быць? Ага — рэцэньзія, здаецца, на Цанававу кніжку аб партызанах...» Урэшце, насьлініўшы добра пальцы, мы бярэмся за лістаньне гадавікоў «Б-ны»: 1952, 1953, 1954... А пасьля — яшчэ раз з пачатку. Мазольная праца!

☆

У свой час (у 1952 годзе) кіраўнік Беларускае Бібліяграфічнае Служоы, сп. М. Панькоў, выдаў пры Крывіцкім Навуковым Таварыстве Пр. Скарыны «Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945—50 гады». Кніжка выявілася вельмі карыснай, а сама думка ратаваньня беларускіх выданьняў ад раскіданасьці й зьнішчэньня поўнасьцяй заслугоўвае на падтрымку. Ад 1950-га мінула яшчэ пяць працавітых год. Зьявілася яшчэ мноства цікавых выданьняў. Але інвэнтарызацыі нашае фактычнае гаспадаркі нельга абмяжоўваць да «паказьнікаў друку». Мы мусім мець таксама і «Паказьнік матарыялаў».

☆

Нашыя ратататарныя выданьні зь мінулае «эры» вельмі часта сваёй формай не адпавядаюць зьместу. Нярэдка пад заскарузлым гіерагліфічным друкам на пазамазваных балонках зашыфраваны надзвычай цікавыя матарыялы й каштоўныя дадзеныя. Часамі гэта бываюць весткі унікаты, якіх больш нідзе ня знойдзеш.

Нядаўна прыпадкова папала нам у рукі некалькі нумароў рэгенсбурскіх «Ведамак». Тлустыя ад ратататарнай хварбы лісты паперы ня выклікаюць да сябе шмат пашаны. Затое пачынаеш даражыць імі, калі ўважна пераглядзіш зьмест. Сцэптычна лістаючы гэтую «газэту», зірк наш спыняецца раптам на «Нашых кутках»:

**«Год працы ў Рэгенсбургу.** 9. VI. (1946). Крывіцкае (Беларускае) селішча ў Рэгенсбургу адзначыла ўгодкі дзейнасьці й працы тутэйшых камітэтаў і арганізацыяў.

»Рэгенсбурскі Акрутовы Камітэт пачаў сваю дзейнасьць з днём атрыманьня дазволу 6. 6. 1945 г., калі ў ім было ўсяго двух заснавальнікаў. Сяньня тутэйшае селішча налічвае 390 жыхароў. Зарэгістравана ў Камітэце 918 сяброў.. . Камітэт навязаў лучнасьць праз ныезды паасобных сяброў з 41 лягерам, дзе жывуць нашыя суродзічы... Ад лістапада месяца 1945 г. існуе скаўцкі сьцяг, які налічвае 76 скаўтаў... Выходзіць скаўцкі часапіс «Зважай». У галіне культурна-асьветнае працы зроблена наступнае:..» і г. д.

Яшчэ ў пачатковай школе вучылі нас, што да свае гісторыі трэба мець пашану...

Калі-ж некаму некалі спатрэбяцца дадзеныя аб жыцьці Беларусаў у Нямеччыне, дык гэта будуць весткі па даляру за радок (На гэтым месцы, між іншага, хацелася-б яшчэ раз падкрэсьліць важнасьць вядзеньня рэгулярнае хронікі нашага грамадзкага жыцьця й сяньня. Хроніка, як пераконваемся зь «Ведамак», быццам віно — чым старэйшая, тым каштоўнейшая).

☆

У замацоўваньні нашых палітычных ды ідэялягічных пазыцыяў, акрамя фактаў, нам патрэбна паінфармаванасьць і апэратыўнасьць. Прыкладам, калі-б узяцца цяпер напісаць крыху грунтоўней падсумавальны артыкул, скажам, аб беларуска-ўкраінскіх дачыненьнях на эміграцыі (ці аб беларуска-летувіскіх, ці аб палітычнай дзейнасьці Рады БНР, ці аб скаўтынгу) дык, пэўна-ж, гадавікоў «Бацькаўшчыны» за 1954—1955 нам ня хопіць на гэта. Ды ўрэшце, калі ў нас і ёсьць сякія-такія гадавікі ці паасобныя выданьні, дык мы пальцы пазьлізваем ,шукаючы па іх патрэбных

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Рэха сьвяткаваньня Сакавіковае гадавіны

### 25 САКАВІКА Ў ЛЁНДАНЕ

**Чаму гэтак позна?**

Даруйце, Чытачы, што заместа аб урачыстасьцях, даводзіцца насамперш сказаць пару паясьняльных словаў.

Галоўная ўправа ЗБВБ, як і ўправа Лёнданскага аддзелу, кажнага году сьвяткуюць 25 Сакавіка. Лёнданская калёнія мае таксама амбіцыю кажнага году сьвяткаваць больш урачыста, з большай карысьцяй для агульнабеларускай справы.

У гэтым годзе каталіцкія й праваслаўныя вялікодныя сьвяты вельмі разыйшліся ў датах. 25 сакавіка прыпадала сёлета якраз тады, калі каталікі мелі вербніцу. Таму, каб даць змогу прыняць удзел у сьвяткаваньні ўсім Беларусам, угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі пастаноўлена было адсьвяткаваць 8 красавіка з удзелам блізу вылучна самых Беларусаў і 7 травеня з удзелам чужынцаў.

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА Ў БЕЛАРУСКІМ ДОМЕ

У нядзелю 8 красавіка посьля абеду амаль усе сябры Лёнданскага аддзелу ЗБВБ дь шмат гасьцей, сабраліся ў Беларускім Доме пры 52 Пэнн Род. Цёплымі словам прывітаў усіх прысутных сп. Б. Курага-Скрага. Сп. М. Арцюх (сьвежы лювэнскі абсальвэнт) прачытаў даклад на тэму «Ідэі 25 Сакавіка, за якія змагаемся». Прэлегент прааналізаваў Першую й Другую Граматы, якімі Беларусь абвяшчалася сувэрэннай дзяржавай ў сваіх этнаграфічных межах, паказаў на актуальнасьць і жывучасьць сакавіковых ідэяў. Даклад быў добра апрацаваны: прэлегент унікнуў паўтараньня фактаў усім добра ведамых, а зьвярнуў большую ўвагу на сам зьмест нашых гістарычных актаў.

Тут-жа пасьля дакладу была кінута думка, каб сьвяткаваньне 25 Сакавіка выкарыстоўваць, як добрую нагоду, дзеля праводжаньня грашовых зборак на Фонд БНР. Усе прысутныя былі з гэтым згодныя. Пастанова гэтая была адразу-ж праведзена ў жыцьцё.

Трэба адцеміць яшчэ пару асаблівасьцяў зь сёлетняга сьвяткаваньня 25 Сакавіка ў Беларускім Доме — гэта прамова сп-ра Обэрона Гэрбэрта ды прысутнасьць шматлікіх сем'яў зь дзецьмі. Сп. Гэрбэрт, які прыбыў на ўрачыстасьць із сп-няй Вудруф, пажадаў Беларусам найхутчэйшага зьдзейсьненьня сваіх ідэялаў. Ён-жа выказаў вялікі сум з нагоды прыезду ў Вялікабрытанію найбольшых тыранаў беларускага народу — Булганіна й Хрушчова. Трэба ведаць, што сп Гэрбэрт разам із сп-ром Малькольм Мэгарыдж быў найбольш актыўным у праводжаньні розных супрацьсавецкіх маніфэстацыяў, а ягоны артыкул у «Дэйлі Тэлеграф» меў значны ўплыў на агульнаю апінію ў Вялікай Брытаніі ў дачыненьні да савецкіх лідэраў.

### ПРЫНЯЦЬЦЕ Ў БРЫТАНСКІМ ПАРЛЯМЭНЦЕ

Ладзіла яго Ангельска-Беларускае Таварыства, ад імя якога фармальныя запросіны былі рассыланыя сп-ствам Ormsby Gore, сябрам брытанскага парлямэнту і старшынёю ўспомненага Таварыства. Прыняцьце ладзілася з нагоды 25 Сакавіка ў будынку брытанскага парлямэнту. Сталася гэта магчымым толькі дзякуючы нашаму паважанаму Старшыні сп-ру D. Ormsby Gore.

Пунктуальна а гадз. 6-й пасьля абеду пачалі зьбірацца запрошаныя госьці. Прайшоўшы колькі калідораў і заляў, можна было трапіць туды, дзе красавалася нашая «Пагоня» з надпісам «Жыве Беларусь».

Хутка заля перапоўнілася, было ўсяго больш за сотню асоб, сярод якіх мы бачылі прадстаўнікоў 15 розных нацыянальнасьцяў.

Апрача самога гаспадара прыняцьця, выдатнага брытанскага парлямэнтарыстага, сп-ра D. Ormsby Gore было яшчэ адзінаццаць сяброў парлямэнту з розных партыяў: сп. сп. Hugh Fraser (кансэрватыўная партыя) Hugh Delargy (лейбар. п.), Joseph Grimond (лібэр. п.), Gilbert Longden (канс. п.), палк. N. Maclean (канс. п.), John Eden (канс. п., сваяк прэм'ера Ідэна), John Biggs-Davison (канс. п.), Peter Kirk (канс. п.) Paul Williams (канс. п., міністр у сучасным урадзе), Body (канс. п.), Brooman White (канс. п.) Была таксама сп-ня U. Branston, сакратарка замежных спраў кансэрватыўнай партыі.

Апрача ўспомненых сяброў парлямэнту й палітычных дзеячоў, узялі ўдзел у прыняцьці выдатныя асабістасьці ведамыя ў культурным і рэлігійным жыцьці Вялікай Брытаніі: сп-ства Woodruff, сп-ства Herbert, архіяпіскап Mathew, прадстаўнікі прэсы „Times", „Daily Telegraph" і „Tablet", а таксама карэспандэнт галяндзкіх газэтаў.

На прыняцьце прыбылі таксама прадстаўнікі розных паняволеных савецкім рэжымам народаў: Ад Украінцаў — праф. Левіцкі, старшыня СУБ'у, сп. Галька-Ледухоўскі, сп-ства Опарэнкі; ад Палякаў — граф Рачынскі, інж. Сьцібор-Рыльскі, сп. Велькопольскі, пралат Эльстон-Гоголінскі; ад Латышоў — сп-ства Зарынс, ад Эстонцаў — др. Таўль, ад Сэрбаў — сп-ства Гаўрыловіч, ад Славакаў — др. Прыдавок, ад Вугорцаў — сп. Торзай-Бібэр, старшыня Брытанска-Вугорскага Т-ва, і граф Ц. Альмазы. Былі таксама прадстаўнікі ад Італьянцаў, Новазэляндцаў, Ірляндцаў.

Ад Беларусаў першым гасьцём быў Прэзыдэнт Мікола Абрамчык. У прыняцьці бралі ўдзел а. а. Сіповіч і Маскалік, а таксама старшыні і шматлікія прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў у Вялікай Брытаніі. Кульмінацыйным пунктам прыняцьця былі прамовы сп-ра Ормсбі Гор'а, гаспадара прыняцьця і Прэзыдэнта М. Абрамчыка. Абедзьве прамовы з гледзішча на іхны зьмест і абставіны, у якіх былі сказаныя, падаем першую ў дасло̄ўным перакладзе, другую ў арыгінале.

### ПРАМОВА ДЭПУТАТА БРЫТАНСКАГА ПАРЛЯМАНТУ СП. ОРМСБІ ГОР'А

Спадар Прэзыдэнт, Спадарыні й Спадары!

Ад імя мае жонкі й сябе я хацеў-бы прывітаць усіх тут Вас на гэтым беларускім прыняцьці. Праўдападобна, некаторыя з Вас былі на прыняцьці, ладжаным намі ў мінулым годзе, праўда, у зусім іншых абставінах, чымся сяньняшнія, зь якога Вы — спадзяюся — былі задаволеныя. Шмат хто з Вас хіба прыпамінае, калі пры тэй нагодзе я заўважыў, што аднэй з характэрных рысаў савецкае прапаганды зьяўляецца падкрэсьліваньне факту, што Беларуская Савецкая Рэспубліка — гэта незалежная дзяржава. У запраўднасьці дзеля гэтага яна й атрымала месца ў Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў.

Саветы усьцяж цьвердзяць, што Беларуская Рэспубліка знаходзіцца ў аналягічным палажэньні, як Аўстралія ці Канада ў Брытанскай Супольнасьці Народаў **(сьмех у залі).**

Таму, на маю думку, Беларусы — ці яны ў сябе на бацькаўшчыне ці на чужыне — зусім справядліва паступаюць, калі бязупынна працуюць і моляцца, каб прыйшоў той дзень, калі савецкі міт станецца рэчаіснасьцяй **(Воплескі).**

Цяпер, на працягу апошніх 12 месяцаў, у камуністычным сьвеце заўважваюцца цікавыя зьявішчы. Я думаю, што было-б вельмі неразумным, калі-б мы ў вадносінах да іх былі занадта аптымістымі — да таго часу, пакуль валадары ў Крэмлі зьяўляюцца гаспадарамі сытуацыі а навет выглядае, што да пэўнай ступені яны пераймаюць ініцыятыву. Лішні аптымізм быў-бы небясьпечны, але, з другога боку, зразумела, што ўсе тыя, хто любіць свабоду, бачаць у гэтым пэўную надзею на ясьнейшую будучыню. Некаторыя з Вас могуць адчуваць, што ў сьвятле гэтых зьявішчаў была зьвернута недастатковая ўвага на тыя краі й тыя нацыі, якія дагэтуль знаходзяцца пад панаваньнем (дамінацыяй) Савецкай Расеі.

Таму, пры гэтай нагодзе, я зь вялікай прыемнасьцяй запэўніваю Вас, што нас шмат у гэтай краіне — ува ўсіх палітычных партыях, якія поўнасьцяй дацэньваюць надзеі й жаданьні тых, якія вераць, што прыйдзе дзень, калі яны зноў будуць вольныя ў сваёй роднай краіне.

Таму, ад імя маіх тут брытанскіх калегаў дазвольце тут выказаць нашую цьвёрдую надзею, што гэтыя імкненьні прыблізяцца ў наступным годзе да свае мэты. **(Воплескі).**

Цяпер дазвольце прадставіць Прэзыдэнта Абрамчыка, які хацеў-бы сказаць некалькі словаў.

☆

На гэтыя словы сп-ра Ормсбі Гор'а, поўныя дыпляматычнага такту й зразуменьня беларускае справы, Прэзыдэнт Абрамчык, спатканы гучнымі воплескамі, адказаў пабеларуску, што было на месцы перакладзена на ангельскую мову.

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# Патрэба канцэпцыі

(Заканчэньня зь 1-ай бачыны)

Адразу-ж аднак трэба зазначыць, што прывядзеньне ўсяе канцэпцыі да колькіх асноўных простых пунктаў, ня толькі ня выключае, але наадварот — патрабуе шырокага распрацаваньня канцэпцыі з усёй ейнай складанасьцяй. Калі гэтае першае патрэбнае перадусім для таго, каб зрушыць народ у патрэбным кірунку, дык шырока распрацаваная канцэпцыя неабходная для рэалізаваньня таго, што народу абяцаецца, інакш кажучы, першае — гэта канкрэтныя голыя мэты, апошняе — ня толькі мэты, але й разгляд магчымасьцяў ды мэтадаў рэалізацыі іх. Калі мы, скажам, высунем пастулят права на прыватную собскасьць зямлі і сяродкаў вытворчасьці, дык канцэпцыя мусіць разглядаць, як гэтае права мае быць праводжанае ў жыцьцё, дзе ягоныя межы, якая роля дзяржавы ў рэглямантаваньні яго й г. д.

Такім чынам, падсумоўваючы вышэй сказанае, мы бачым патрэбу, з аднаго боку, шырока распрацаванай канцэпцыі, з другога-ж зьвядзеньня яе да колькіх праграмовых канкрэтных пунктаў. І хоць вядома, што ў гэтым кірунку мы ня маем дачыненьня зь нейкім падыманьнем цаліны, тым ня менш, прыходзіцца сьцьвердзіць, што тыя праблемы, якія займалі нашых ідэялёгаў 20-30 год таму, сяньня маюць іншыя адценьні, а нярэдка паявіліся й новыя фактары, якія тады яшчэ ня ўходзілі ў гульню. Возьмем хоць-бы для прыкладу дачыненьні да сялянства й да работніцтва. У нас калісьці была тэндэнцыя будаваць незалежніцкую канцэпцыю, ставячы стаўку перадусім на сялянства. У дачыненьні-ж да работніцтва здавалася, што хопіць гарантыі васьмігадзіннага працоўнага дня, права штрайку ды іншых правоў, што вынікаюць з канстытуцыі. Сяньня, папершае, лікавыя суадносіны сялянства й работніцтва ў Беларусі значна зьмяніліся ў карысьць апошняга. Падругое, у вольным сьвеце сяньня вышменаваныя правы не задавальняюць работніцтва, якое ставіць сяньня пытаньне свайго ўдзелу ў прыбытках прадпрыемства ды ў кіраўніцтве ім, што, бязумоўна, трэба й нам улічваць у дачыненьні да беларускага работніцтва ў будучыні.

Гэта толькі адзін з прыкладаў. Падобных-жа праблемаў у нас цэлы шэраг, якія і мусяць ужо сяньня намі абмяркоўвацца, і да абмеркаваньня якіх, спадзяемся, возьмуцца людзі з самымі рознымі паглядамі.

**А. Галубіцкі**

# Паказьнік беларускіх матарыялаў

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

дадзеных. Адсюль вывад: хтосьці мусіць узяцца (калі яшчэ ня ўзяўся) за злажэньне «Паказьніка **матарыялаў** беларускага друку, 1945 — . . .».

Аб канкрэтнай схэме такое працы цяжка гаварыць. Ейны профіль будзе залежаць ад аўтара. У тракце афармленьня ён будзе напэўна зьменьвацца й дапаўняцца. Выходзішчам мусіў-бы быць прыблізна такі контур: I. **Палітычнае жыцьцё беларускай эміграцыі:** 1. Замежная дзейнасьць Рады БНР, 2. Замежная дзейнасьць Рады БЦР, 3. Беларуска-ўкраінскія, беларуска-летувіскія, беларуска-польскія і г. д. дачыненьні. II. **Рэлігійнае жыцьцё беларускае эміграцыі:** 1. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, 2. Зарубежжа, 3. Беларускія каталікі й г. д. III. **Беларускае культурна-мастацкае жыцьцё.** IV. **Школьніцтва й студэнцтва.** V. **Беларусь у чужой прэсе.** VI. **Нэкралёгі** (дзе шукаць матарыялаў аб сьв. пам. М. Равенскім, В. Рагулі, Л. Рыдлеўскім. . .) і г. д., і г. д.

Пад гэткімі рубрыкамі мусілі-б пералічыцца (галоўныя) артыкулы, параськіданыя па розных рататарных і нератататарных беларускіх газэтах і часапісах. Эвэнтуальнаму дасьледніку аднаго з пытаньняў нашага жыцьця, у нашых-жа інтарэсах, гэтым аблегчыцца доступ да праблемаў. (Аб зборы часапісаў і газэт у вадно месца хай ужо думаюць нашыя архівістыя, бібліятэкары ды бібліяфілы).

Праца над «Паказьнікам матарыялаў» — не на адны плечы. Неабавязкова ўсё за раз. Можна ўзяцца за адзін з пунктаў і належна апрацаваць яго. Факт толькі, што трэба было-б і на гэтую работу закасаць некаму рукавы.

**Янка З.**

2)

# На нівах і ўзвышшах беларускага слова

III

Скакнуў — ня трапіў; пасьлізнуўся!
І ў яму маланьнёй лячу!
Ляцеў-ляцеў, як разануўся, —
Аж стала зелена ў ваччу!
Ляцеў ці доўга я, ці мала,
Таго ніяк я не ўцямлю.
Але ўжо ладна разьвідняла,
Як я зваліўся на зямлю.

Устаў зь зямлі, абкалаціўся, —
Бо у гразі быў, як сьвіньня,
І дужа, дужа я дзівіўся, —
Дзе апынуўся гэта я?
Рукой паскробшы каля вуха,
Дабыў з табакай рагавень,
І храпы напіхаў цяртухай, —
Бо ня ўжываў я цэлы дзень!

Як прасьвятлелі мае вочы,
Мядзьведзя ўжо я ня шукаў!
Закінуў стрэльбу я за плечы,
І па бакох глядзець я стаў.

IV

А вохці мне! як там прыгожа!
Ну быццам хто намаляваў!
Чырвоны краскі, мак і рожа, —
Ну, як шырынку хто паслаў!
І птушкі ёсьць там, дужа стройна
Пяюць, ня горш за салаўя!
Авохці мне! А-а, авой-я!
Куды патрапіў гэта я!
Стаяў я доўга і дзівіўся,
Разьзявіў зяпу і глядзеў,
Аж вось адкулецька зьявіўся:
Ці то прыйшоў, ці прыляцеў —
Хлапчына нейкі круглалікі,
Увесь курчавы, як баран,
І за плячмі ў яго вялікі
Прычэплен лук быў і каўчан.
— Адкуль, куды дарога гэта? —
Спытаўся я ў хлапца той час.
— Дарога гэта з таго сьвета
І проста йдзець аж на Парнас! —
Сказаўшы, хлопчык таго часу
На крыльлі шпарка паляцеў,
Дарогу-ж паказаць Тарасу,
Ня меўшы часу, не хацеў. . .

V

Падумаў я тады цімнога:
Што за шайтан Парнас такі?
Пайшоў я проста тэй дарогай,
Узяўшы ў рукі добры кій.
Прайшоў вёрст дзесяць тэй дарогай,
Аж бачу я: гара стаіць.
Пад тэй гарой народу многа,
Як-бы кірмаш які кіпіць.
Прыйшоў я бліжай, што за ліха!
Народ ня просты, ўсё паны!
Хто дужа шпарка, хто паціху,
Ўсе лезуць на гару яны.
Як тыя ў школе, галасуюць,
Гатоў адзін другога зьесьць,
Бо кажны морду ўперад сунець,
Каб першым на гару узьлезьць.

VI

Усе з сабой цягаюць кніжкі,
Аж зь іншых пот цурком плюшчыць,
Адзін адному цісьнуць кішкі,
Аж нехта спаміж іх крычыць:
— Памалу, браткі, ня душэце
Вы хвалітон мой і «Пчалу»,
Мяне-ж самога вы пусьцеце
І не дзяржэце за палу!
А не, дык, дадушы, ў газэце
Я вас аблаю на ўвесь сьвет,
Як Гогаля у пройшлым леце,
Я-ж сам рэдактарам газэт! —
Гляджу сабе, аж гэта сівы,
Кароткі, тоўсты, як кабан,
Плюгавы, дужа неўкрасівы,
Крычыць, як ашалелы, пан.
Нясець вялікі мех пан гэты,
Паўным-паўнюсенькі набіт,
Усё там кніжкі ды газэты,
Ну, як каробашнік той, жыд!
Таварыш поплеч зь ім ідзець
І несьці кніжкі пасабляець,
А сам граматыку нясець,
Што ў сэмінарнях навучаюць.

VII

Во, нешта разам зашумелі,
Народ раздаўся на канцы,
І, як-бы птушкі, праляцелі
Чатыры добрых малайцы.
Народ то быў ўсё не такоўскі:
Сам Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі
І Гогаль шпарка каля нас
Прайшлі, як павы, на Парнас!
Ну, словам, многа тут народу
Зыйшлося лезьці на Парнас,
Былі паны, было і зброду.
Як часам і на сьвеце ў нас.
Паміж людзей і я штурхаўся
І цiснуўся, што ёсьць пары;
Вось ледзь-ня-ледзь тыкі прабраўся
І лезу проста да гары.

VIII

Узьлез. Гляджу, аж хата нова,
Стаіць, зазвычай, панскі двор.
Вакол яго там тын яловы:
Нябойсь, ня плох, ня ўлезець вор!
Кругом там сьвіньне ўсюды ходзяць,
Сабакі, козы, бараны. . .
Знаць і багі хаджайства водзяць,
Калі сьвіней дзяржаць яны.
На грошы ў тронкі тут гуляюць
Парнаскі хлопцы-дзяцюкі;
А хто капейкі зь іх ня маець,
Той лупіць проста на шлякі.
Улез к багам тады я ў хату. . .
Авохці мне! Ні даць ні ўзяць,
Як у кашарах тых салдатаў, —
Багоў няможна пашчытаць!

IX

Тарасу ліха што здаецца,
Ну, як-бы ў раньдзе ён сядзіць, —
Хто піпку курыць, хто сьмяецца,
А іншы песьні бурузьдзіць.
Глядзіць ён, аж на лаўцы шыюць
Шаўцы багіням хадакі,
Багіні-ж у начоўках мыюць
Багом кашулі і парткі.
Сатуран, лыкі размачыўшы,
Падвіркай лапці падплятаў,
Па сьвеце добра пахадзіўшы,
Лапцей ці мала натаптаў.
Нэптун на лаўцы правіць сеці
І восьці садзіць на шасты,
Пры ім-жа, мусіць, яго дзеці
Дзіравы ладзяць нераты.

# «РЫЦАР ПАГОНІ»

**(На 75-ыя ўгодкі нараджэньня Івана Луцкевіча. 28. V. 1881 г. — 20. VIII. 1919 г.)**

Сярод шматлікіх юбілеяў гэтага году выдатнае месца займае 75-ая гадавіна нараджэньня вядомага змагара беларускага адраджэнскага руху, Івана Луцкевіча.

У гэтым годзе ягонае імя будуць успамінаць і ў сувязі з 50-нім юбілеем «Нашай Нівы», газэты, якую ён заснаваў і назоў якой меў сымбалічнае значэньне, бо Іван Луцкевіч разам із сваім братам Антонам і грамадкай беларускіх ідэялістых узаралі нанова й ачысьцілі зарослую наляцелым чужынскім пустазельлем ніву беларускай душы.

Гэта былі тыя шаленцы, аб якіх Янка Купала, які сам да іх належаў, у сваёй прамове з нагоды сваёй 15-ай гадавіны паэтыцкай дзейнасьці ў 1920 г. сказаў: «15 гадоў таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галовамі мур прабіць — адбудаваць сваю закаваную ў многавяковыя кайданы бацькаўшчыну, а сягодня без малога ўвесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызваленьня».

Гэтак назваў адданых працаўнікоў беларускага адраджэньня Янка Купала.

Мусіць словы другога выдатнага паэты, Максіма Багдановіча, адносяцца таксама да іх, дзе ў сваім вершы, «Пагоня», ён кажа аб яе рыцарах:

«Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі Цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?
Беце ў сэрцы іх, беце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!»

Сярод гэтых шаленцаў, гэтых рыцараў Пагоні, Іван Луцкевіч быў адзін із найбольш дзейных; асабліва ўмеў гарачым жывым словам і дзейным чынам «біць у сэрцы» людзей і прабуджаць у іх любоў да роднага краю.

Працы аб нашаніўскім часе ўспомняць Івана Луцкевіча й ягоныя заслугі, дык я сяньня хачу даць толькі сыльвэтку асобы, бо мала нас засталося, што зналі яго асабіста, і затым успомніць аб палітычнай працы Івана Луцкевіча падчас нямецкай акупацыі Вільні ў часе І-ай Сусьветнай вайны (1915—1919), апошнія 4 гады жыцьця Івана Луцкевіча.

Кажны Беларус, які ў той час апынуўся ў Вільні, як і палітычныя дзеячы іншых нацыянальнасьцяў або вучоныя ахвотна наведвалі Беларускі Камітэт на Віленскай 33, гэта значыць, кватэру братоў Івана й Антона Луцкевічаў, каб там атрымаць раду, помач або проста пагутарыць аб палітыцы й тагачасных падзеях.

Антон Луцкевіч найчасьцей быў заняты пісьменнай працай, дык усіх наведвальнікаў прыймаў амаль адзін Іван Луцкевіч.

На спатканьне госьця, з-за пісьменнага стала падыймаўся худашчавы чалавек, досыць высокага росту, але трохі прыгорблены дзеля сухотаў, якія яго тачылі. Ягоная вопратка гаварыла аб тым, што даўно служыць свайму гаспадару, але госьць гэта рэдка заўважваў, бо яго прыцягвала ветлівае аблічча, якога ня можна было назваць асабліва прыгожым, хоць рысы былі правільныя. На прадаўгаватым твары скулы трохі выступалі, а з-пад высокага лобу жывыя, добрыя, разумныя вочы сьвяціліся асаблівым вогнікам і найчасьцей усьмешка, то жартаўлівая або проста добрая, ажыўляла ўвесь твар і рабіла яго сымпатычным і мілым.

У гутарцы Іван Луцкевіч хутка здабываў сабе ня толькі сымпатыю, але й давер і пашану, бо меў асаблівае ўздольненьне для кажнага чалавека знайсьці адпаведныя словы й тон. Ён цярпліва выслухоўваў жальбы старой сялянкі, якая пехатой прыцягнулася з далёкай вёскі, бо ёй кум расказваў, што ў Беларускім Камітэце ёй памогуць шукаць сынка, які на вайне й ад якога ужо без мала два гады весткі няма. Іван Луцкевіч яе супакойваў і, выпытаўшы патрэбныя дадзеныя, запаўняў картку ў Чырвоны Крыж, і старая жанчына з новай надзеяй ішла дамоў. Людзі, асабліва простыя, бачылі, як ён да іх спагадлівы й шчыры, заўсёды ахвотны памагчы, любілі яго й казалі часта: «Гэта наш пан».

Калі зьяўляўся якісь вучоны, які цікавіўся Беларусамі, то Іван Луцкевіч яго вёў у свой музэй і із свойскай яму жывасьцяй паясьняў цікавыя памяткі мінуўшчыні й гатоў быў чытаць цэлую лекцыю. З усімі людзьмі ўмеў навязаць добрыя дачыненьні, бо быў вельмі талерацыйны да ўсіх, меў зразуменьне для розных людзкіх слабасьцяў. Найчасьцей быў у добрым настроі, быў жывы, рухлівы, любіў пасьмяяцца, аднак пры непаразуменьні хутка дэнэрваваўся й калі ўспыхнуў, то мог і добра вылаяць другога, але гэта ў яго хутка праходзіла і ён шкадаваў свайго гнеўнага парыву. Праўда, калі даходзіла да спрэчак або непаразуменьняў і ён кагосьці прабіраў, то гэта, сколькі памятаю, была рэакцыя не асабістай амбіцыі, а найчасьцей ішло аб пагляды або беларускую працу. Тут ён ад сваіх сяброў вымагаў адданай, шчырай, грамадзкай працы й вельмі гневаўся, калі хтосьці свае асабістыя інтарэсы або амбіцыі ставіў вышэй; тады ён прабіраў, а часта ў сваім парыве лаяў віноўнага, але на яго рэдка за гэта гневаліся, бо ён гэта рабіў, як казалі, для дабра справы. Вось цярпець ня мог, калі хтосьці сам выхваляўся ці падходзіў да яго з пахвальбой, тады ён накідаўся на яго дабрадушна, ці саркастычна, бо меў войстры язык, і гэтым адбіваў ахвоту весьці гутарку далей у гэтым тоне.

У сваіх асабістых пажаданьнях быў вельмі скромны: пытаньні вопраткі й ежы яго мала турбавалі, бо мала ўвагі зьвяртаў на сваю асобу й свае патрэбы, як і на сваё падарванае здароўе; заўсёды гневаўся, калі яму напаміналі, што мусіць яго шанаваць. На ўсё гэта ён ня меў часу і шкадаваў грошай, хоць другім ахвотна дапамагаў і даваў. Аднак, калі патрэбныя былі грошы на справы грамадзкія, то заўсёды патрапіў іх здабыць, як і на свае музэйныя рэчы. Вось асабістай слабасьцяй была ягоная табака, бо із сваёй люлькай ён ніколі не расставаўся, хоць гэта шкодзіла яго здароўю. Із сваім жывым тэмпэрамэнтам ён заўсёды быў у руху, арганізаваў і сачыў за беларускай працай: жывым сваім словам заклікаў да яе; быў выдатным прамоўцам, зь вялікім запалам бараніў справы беларускія й у шмат каго прабудзіў беларускае сэрца й спагаду да беларускага руху.

Па натуры сваёй быў энтузіястым, меў сілу веры ў дасягненьне ідэялаў — вызваленьня з пад расейскай няволі сваей Бацькаўшчыны — і гэтая вера яго падтрымлівала ў цяжкія часіны й не давала падаць духам і апускаць рукі. Дзе толькі трэба было выступаць ад Беларусаў і бараніць іх справы, Іван Луцкевіч быў там першы. За сваю беларускую працу ён здабыў сабе нямала ворагаў сярод польскіх і расейскіх рэакцыйных колаў, якія варожа глядзелі на пашырэньне беларускага руху. Аднак ён меў і шмат добрых знаёмых сярод прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў роднага краю, бо яго шанавалі й любілі, як дзейнага ганаровага й добрага чалавека.

Сярод-жа віленскіх Беларусаў ён цешыўся вялікай папулярнасьцяй і аўтарытэтам, хоць за гэтым ня гнаўся. Ягоныя словы цанілі й паважалі як сяляне, так і работнікі. А сярод сваіх сяброў па працы ён быў добрым мілым сябрам. Памятаю, як артысты Фр. Аляхновіч часта зь ім радзіўся, бо меў ня мала цяжкасьцяў із сваім тэатрам. Іван Луцкевіч яму дапамагаў, бо заўсёды быў поўны энэргіі й помыслаў і патрапіў знайсьці выхад з кажнай цяжкой сытуацыі.

На бег палітычных падзеяў свайго часу Іван Луцкевіч глядзеў трэзва, рэчова, аднак заўсёды стараўся для беларускай справы здабыць адпаведныя пазыцыі. Да першай сусьветнай вайны, у час расейскай Сталыпінскай рэакцыі, ён разумеў, што трэба пакуль што абмежавацца пашырэньнем беларускага адраджэнскага руху й як першы этап — старацца здабыць аўтаномію свайму краю.

Выбух у восені 1914 г. першай сусьветнай вайны й непаводжаньні расейскай арміі ўзбуджаюць яго надзеі; ён стараецца выкарыстаць новыя абставіны, якія паўсталі, калі Заходняя Беларусь разам зь Вільняй у верасьні 1915 г. апынулася пад нямецкай акупацыяй. У існуючым ужо Беларускім Камітэце Помачы Пацярпеўшым ад Вайны да грамадзкай працы далучаюць і палітычную.

«Трэба Немцаў найперш азнаёміць зь беларускай справай, бо яны ў ёй нічога не разумеюць, а затым дамагацца нашых правоў», — кажа Іван Луцкевіч на першым паседжаньні Камітэту пасьля заняцьця Вільні Немцамі.

І вось, пачынаючы із школьнага кіраўніцтва й канчаючы Militärverwaltung Litauen, браты Іван і Антон Луцкевічы складаюць розныя мэмарыялы, дзе знаёмяць зь гісторыяй і імкненьнямі Беларусаў. Адначасна Камітэт адчыняе беларускія пачатковыя школы й вучыцельскія курсы. Іван Луцкевіч стараецца й сярод насельніцтва стварыць падставы для ўваскрашэньня былай беларуска-летувіскай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

На жаль, ягоныя спробы злучыць прадстаўнікоў усіх нацыянальнасьцяў у задно прадстаўніцтва («Камітэт Абывацельскі»), якое-бы дружна выступала перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі й супольна бараніла інтэрэсы Вільні й роднага краю, разьбіваюцца дзеля нязгоды між прадстаўнікамі паасобных народаў. Гэта было Немцам і не на руку, яны распускаюць гарадзкі самаўрад, дзе кіруюць Палякі, і ўводзяць сваё гарадзкое ўпраўленьне.

Аднак Іван Луцкевіч працуе далей; зь ягонай ініцыятывы паўстае Канфэдэрацыя Вялікага Княства Літоўскага. На нарады зьбіраюцца прагрэсыўныя прадстаўнікі Беларусаў, Летувісаў і Жыдоў, каб дыскутаваць аб будучыні зямель быўшага Вялікага Княства Літоўскага.

Я асабіста, як сябра Беларускага Камітэту, бывала на гэтых дыскусіях і добра помятаю, што найбольш выдатным прамоўцам сярод прысутных быў Іван Луцкевіч. Ён разьвіваў сваю канцэпцыю, што на абшарах Вялікага Княства Літоўскага павінна ізноў пад знакам старой Пагоні паўстаць беларуска-летувіская дзяржава, у якой кажны з гэтых аўтахтонскіх народаў на сваіх землях карыстаўся-бы аўтаноміяй, але навонкі выступаў-бы, як адзін дзяржаўны арганізм, каб супольнымі сіламі бараніцца ад захопніцкіх імкненьняў суседзяў із Усходу й Захаду. Ён думае, што пасьля праіграной вайны Расея ня зможа нанава прыгнятаць падуладныя ёй да вайны народы й што паўстануць да новага незалежнага жыцьця ня толькі Польшча, але ўся Прыбалтыка г. зн. Эстонцы, Латышы, Летувісы, затым Беларусы й Украіна. Зь дзяржавамі Прыбалтыкі на поўначы, як з Украінай на паўдні трэба беларуска-летувіскай дзяржаве стварыць фэдэрацыйны зьвяз. О! зь якім уздымам і жарам стараўся Іван Луцкевіч абараніць перад аўдыторыяй гэту сваю канцэпцыю, у якіх яркіх словах ён казаў аб саюзе ад мора да мора, цьвердзячы, што толькі тады ўсе гэтыя нанова паўсталыя дзяржавы змогуць супрацьставіцца ўсякім пагрозам старых прэтэндэнтаў на іх землі.

Як рэзультат гэтых нарадаў, Канфэдэрацыя выступае з апублікаваньнем І-га Унівэрсалу да народаў зямель быўшага Вялікага Княства Літоўскага. Гэта быў шчыры заклік да гэтых народаў, каб, забыўшыся на старыя ўзаемныя абразы й сваркі, злучыцца для дабра супольнай бацькаўшчыны й дапамагаць у тварэньні незалежнай Летувы й Беларусі.

Тэксты гэтага першага Унівэрсалу, як і другога, выданага ўжо ў лютым 1916 г., былі апрацаваныя Іванам Луцкевічам. Ён, як ініцыятар гэтай Канфэдэрацыі, далей застаўся яе духовым кіраўніком, бо ніхто, як ён, усім сваім сэрцам і душой быў адданы гэтым ідэям. Зьмест другога Унівэрсалу быў далейшай канкрэтнай распрацоўкай першага. У ім гаварылася, што беларуска-летувіскія землі пры тварэньні новай дзяржавы шляхам вольных выбараў паклічуць супольны сойм у Вільні, дзе выпрацуецца канстытуанта, якая забясьпечыць усім народам гэтых зямель магчымасьць вольнага разьвіцьця. У межы гэтай дзяржавы ўваходзяць пакуль што землі, занятыя нямецкімі войскамі. (Пайменна: Ковеншчына, Віленшчына, Горадзеншчына, часткі Сувальшчыны, Курляндыі й Меншчыны). Усе гэтыя землі павінны тварыць навонкі адну цэласьць.

Каб надаць гэтай працы рэальныя формы, Іван Луцкевіч апрацоўвае мэмарыял і пасьля яго перагляду й адабрэньня віленскімі беларускімі арганізацыямі, ад імені апошніх перасылае яго ў сьнежні 1915 г. канцлеру Нямеччыны ў Бэрлін. У ім гаварылася аб гістарычнай і эканамічнай лучнасьці акупаваных нямецкімі войскамі земляў быўшага Вялікага Княства Літоўскага й пажаданьнях Беларусаў стварыць незалежную дэмакратычную дзяржаву, складзеную із двух аўтаномных частак: беларускай і летувіскай.

Хоць на гэты мэмарыял ня было адказу, як і іншыя шматлікія мэмарыялы, якія складаў Беларускі Камітэт у Вільні, не заўсёды нямецкія ўлады адказвалі, то ўсё-ж такі рэзультатам гэтай працы быў загад ад 16-га студзеня 1916 г. фэльдмаршала Гіндэнбурга прызнаць беларускай мове аднолькавыя правы зь іншымі краёвымі мовамі. Гэтае прызнаньне раўнапраўнасьці беларускай мовы выклікала ў Беларускім Камітэце вялікае задаваленьне. Іван Луцкевіч асабліва із сваёй экспансыўнай натурай усьцешыўся й пачаў усіх сяб-

**(Заканчэньне на 4-ай бач.)**

---

X

Вось б'юцца Марс ды з Гэркулесам,
А Гэркулес, як той мядзьведзь,
Старога цешачы Зэвэса,
Хохол ён Марсу добра мнець.
Зэвэс-жа наўзнак лёг на печы,
Сярмягу ўголавы паклаў:
Ён грэў на печы стары плечы
І нешта ў барадзе шукаў.
Во перад люстрам задкам мелець,
І маслам мажаць валасы,
І нечым белым тварык беліць
Вэнэра, знаць дзеля красы.
Амур-жа зь дзеўкамі жартуець,
Ну, проста сьмех ажно бярэць,
То ён зьнянацку пацалуець,
То хустку з галавы зьдзярэць,
То ў гусьлі ён ім заіграець,
То сьмешны песьні запяець,
То адным вокам заміргаець,
Як быццам ён каго завець.

XI

Вось затраслася ўся гара:
Зэвэс на печы зварухнуўся,
Зяхнуў і дужа пацягнуўся,
І кажаць: «„Есьці" ўжо пара!»
Прыгожа дужа дзеўка Гэба
Гарэлкі ў чаркі наліла
І, як жарон, букатку хлеба
Прынёсшы, бразь! сярод стала
На гаспадыню ўзята ў неба,
Багом варыць і плацьце шыць, —
Нябойсь, на цяжкім жывець хлебе,
Ці-ж жарты столькі накарміць?
Во, з усяго зышліся неба
Багі і селі круг стала.
Смачныя йстравы зь печы Гэба
Насіць да столу пачала.

XII

Найперш дала яна капусту,
Тады із скваркамі кулеш,
На малаццэ крупеню густу —
Даець уволю, толькі еж!
І з пастаялкай жур сьцюдзёны,
А з кашы сала аж цякло,
Ды і гуляціны пражонай
Уволю ўсім багом было.
Як узьнясла-ж на стол кілбасы,
Бліны аўсяны ў рашаце,
Аж сьлінкі пацяклі ў Тараса
І забурчэла ў жываце.
Гарэлку піць багІ пачалі,
Зь бітлажкі ў чаркі так і льлюць,
Падпіўшы песьні запялі, —
Ну, як у раньдзе, ўсе пяюць.
Бах сп'яну пеў такі прыпеўкі,
Што аж няможна гаварыць,
Аж засароміліся дзеўкі,
Так стаў ён брыдка развадзіць.
А Зэўс тымчасам насьцябаўся,
Што носам ледзь зямлю ня рыў,
Ён вочы плюшчыў і ківаўся
Ды быццам нешта гаварыў.
Хоць не маё то, праўда, дзела,
Ня сьлед мне, можа, і казаць,
Любіў ён цешыць грэшна цела
Ды часам лоўка падгуляць...

XIII

Але багі тыкі прысталі,
Як усё паелі, папілі.
Во... разам у дуду зайгралі:
Гуляць багіні пачалі.
Узяўшы хустачку, Вэнэра
Пайшла мяцеліцу гуляць,
Прыгожа, стройна цераз меру —
Пяром ня можна апісаць!
Чырвона, тоўста, круглаліца,
І вочы, як на калясе,
Як жар, гарыць яе спадніца
І стужка ўплецена ў касе.
Хапіўшы келішак гарэлкі,
Амур яшчэ павесялеў —
Іграць пачаў ён на жалейкі
І дзеўкам стройна песьні пеў.
Нэптун з прыгожанькай наядай
Пайшоў ў прысядку казака:
Нябойсь, і у старога гада
Кроў граець, як у дзяцюка!
А во і сам Юпітар з Вэстай
Пусьціўся, хрэн стары, усплясь,
Як-бы жаніх перад нявестай,
Заткнуў ён рукі за паяс.
А во і Марс у новых ботах, —
Ён ботаў, мусіць, не жалеў,
Бо зь німфамі скакаў да поту,
Гуляў у жмуркі і шалеў.
І кажны бог так разгуляўся,
Што аж няможна судзяржаць.
А хто гарэлкі насьцябаўся,
Таго пад лаўку клалі спаць.

XIV

Вось, як зайграў дудар скакуху,
Ніяк Тарас наш не ўцярпеў,
І з лавы ён, што меўшы духу,
Гуляць на хату паляцеў.
Як стаў прыстукаваць атопкам,
Аж рот разьзявілі багі:
То ён прысьвісьнець, то прытопнець,
То віхрам гоніць у кругі.
Глядзеў Юпітар, і дзівіўся,
І пад дуду ў далоні біў.
Ўканцы к Тарасу прыбліжыўся
І так яго перапыніў:
— А ты адкулецька, прыяцель?
Чаго прыйшоў ты на Парнас?
Ты хто такі? Ты ня пісацель?
— Не, мой панок! — сказаў Тарас, —
— Я палясоўшчык з Пуцявішча:
Ледзь золак сяньня із двара,
Прыйшоў сюды я а паўдні йшчэ
Ды ўжо й дадому мне пара.
— Ці ня была-б, паночку, ласка
Адсюль дамоў мяне завесьць;
Хадзіўшы па гарэ Парнаскай,
Я дужа захацеўшы ёсьць...

XV

Кіўнуў Зэвэс, і вомірг Гэба
Крупені ў міску наліла
І добрага акрайца хлеба,
Сказаўшы «еж!», мне падала.
Крупені ўволю я набраўшы,
Усіх падзякаваў багоў;
Кашэль за плечы падвязаўшы,
Маніўся ўжо ісьці дамоў.
Аж тут зэфіры падхапілі,
Хто за руку, хто за паяс,
І, як-бы птушкі, паплішчылі
Яны мяне цераз Парнас.
Нясьлі на крыльлі, быццам вецер,
І проста прынясьлі ў наш лес.
Гляджу я: мусіць, ужо вечар.
Бо маладзік на неба ўзьлез...

З тых пор Тарас ужо ня ходзіць
Так дужа рана па лясох,
А дзеля гэтага ня шкодзіць
Бярвеньне красьці па начох.
Дык во, што бачыў наш Тарас,
К багом узьлезшы на Парнас.
Ён гэта мне апавядаў,
А я ў паперку запісаў.

**(Далей будзе)**

# Рэха сьвяткаваньня Сакавіковай гадавіны

### ПРАМОВА СП. ІНЖ. М. АБРАМЧЫКА, ПРЭЗЫДЭНТА РАДЫ БНР

Вельміпаважаны Спадар Старшыня, Спадарыні, Спадары!

Я вельмі ўзварушаны й пачуваю сябе запраўды шчасьлівым быць сяньня на прыняцьці, арганізаваным Ангельска-Беларускім Таварыствам.

Для нас, Беларусаў, вельмі дарагое кажнае цёплае слова, кажны жэст выказанага нам спачуцьця, сымпатыяў і зразуменьня нашай цяжкой сытуацыі. Гэта дадае нам сілы ў прадоўжваньні нашага змаганьня.

Беларускі народ Актам 25 Сакавіка 1918 году рэстаўраваў сваю незалежнасьць. У васнову палітычнага ладу свае сувэрэннае дзяржавы ён уключыў і ўсе тыя шляхотныя прынцыпы вялікай ангельскай Хартыі Вольнасьцяў. Наша маладая рэспубліка, як і ўсе падобныя рэспублікі іншых народаў, ня доўга цешылася свабодай. У працягу пару гадоў усе мы адны за другімі апынуліся у няволі цэнтралістычнага маскоўскага рэжыму, і на гэты раз яшчэ больш жорсткага і без параўнаньня больш нялюдзкага. А за 20 гадоў лёс наш падзялілі яшчэ тры балтыцкія народы і каля дзесятка народаў Цэнральнай Эўропы. Народы нашы аднак ніколі ня зьмірыліся і ня зьміраццa з насільна накінутым ім звонку рэжымам. Вось ужо 38 год, як на нашых землях адбываецца жорсткае змаганьне, якое каштуе нам мільёны людзкіх ахвяраў. У гэтым няроўным змаганьні з камуністычным рэжымам мы заўсёды прагна скіроўвалі свой пагляд і слух у бок вольнага сьвету. Мы заўсёды лічылі й лічым, што змаганьне нашае не аснована на эгаістычных імкненьнях толькі нашых народаў, а што змаганьне нашае абапёртае на прыродна-Боскіх законах, якія даюць права кажнаму народу быць вольным, а таму імкненьні нашыя ня толькі не ўваходзілі ў супярэчнасьць з агульна-людзкім прынцыпам маралі ды агульным інтарэсам цэлага людзтва, а што яны гарманізуюцца зь імі. Таму нас заўсёды балюча кранала, калі вольны й шчасьлівы сьвет заставаўся глухім і індыфэрэнтным да нашых цярпеньняў. Маральная падтрымка з боку вольнага сьвету нам сяньня патрэбна. Я маю ў дадзеным выпадку наўвеце сяньняшнія новыя манэўры савецкае ўлады, якія з глядзішча на сваю нутраную гаспадарскую й палітычную сытуацыю хочуць стварыць уражаньне ў нашым народзе і ўва ўсім вольным сьвеце аб нейкай быццам-бы перамене, эвалюцыі ў бок дэмакратызацыі, і гэтым самым хочуць часова прыспаць нашую ахову, аслабіць нашую адпорнасьць камуністычнаму рэжыму.

Бязумоўна, нас, палітычных дзеячоў, як на эміграцыі, так і ў краі, увесь узьняты шум, зьвязаны з «адсталінізаваньнем» камуністычнае партыі, нічуць ня цешыць. Адзін факт, што на месца ідала Сталіна падымаецца яшчэ вышэй ідал Леніна, нас пераконвае, што тэрор, зьдзек і глум над нашымі народамі ня зьменшыцца, бо занадта добра мы адчулі ў практыцы таго «лагоднага» й «гуманнага» Леніна.

Беларуская Дэмакратычная Рэспубліка, як і восем іншых рэспублік нерасейскіх народаў, былі зьліквідаваныя якраз ня Сталінам, а Ленінам. Сталін, Хрушчоў і ўсе іншыя лідэры камунізму былі толькі судзейнікамі Леніна. Ніхто іншы, як Ленін, увёў жудасны тэрор

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

ЧЭКА, якое затапіла нашыя землі крывёй, зьнішчыла мільёны людзей, руйнавала нашыя сьвятыні, разбурала сем'і. якія, згодна таго-ж самага Леніна, зьяўляюцца першымі ячэйкамі грамадзка-капіталістычнага ладу, што перашкаджалі камунізму.

Дэвіз ленінскага пэрыяду — «Весь мир насилья мы разрушим до основанья, а затем мы наш, мы новый мир построим» — ударным парадкам праводзіўся ў жыцьцё праз ЧЭКА. А гэны «новы мір» у ўяўленьні Леніна прадстаўляўся нічым іншым, як перабудаваны ўвесь сьвет на камуністычны лад — шляхам насільля і тэрору.

Нас нічуць таму ня цешаць абяцаньні Хрушчова замены індывідуальнага кіраўніцтва ў партыі калектыўным на ўзор Леніна. Індывідуальнае кіраўніцтва тэрорам Сталіна заменена на калектыўнае кіраўніцтва тэрору кампартыі, як мізэрнай меншыні насельніцтва, не мяняе палажэньня ў нашых краёх. Ня можа таму зьмяніцца й нашае становішча да савецкае ўлады ў нашым змаганьні за вызваленьне нашых народаў. Наадварот — у ваблічча гэтых новых стратэгічных манэўраў камуністычнай партыі, устаноўленых XX зьездам у Маскве, вымагае ад нас яшчэ большага напружаньня і яшчэ большых высілкаў. А таму наш позірк яшчэ з большай прагнасьцяй ськіроўваецца ў вольны сьвет у чаканьні маральнае падтрымкі нам.

Спадар Старшыня, Спадарыні й Спадары. прыняцьце, уладжанае нам сяньня, як выяўленьне нам сымпатыяў, спачуцьця й салідарнасьці ў нашым змаганьні, прыняцьце, наладжанае нам Англа-Беларускім таварыствам — асабліва ў **гэтым будынку,** слаўным на ўвесь сьвет, як сымбаль свабоды, цытадэлі магутнасьці й станоўкасьці, шляходных агульна-людзкіх прынцыпаў — гэта, паўтараю, нас, Беларусаў, моцна кранае ды ўмацоўвае нас у веры ў нашу канчальную перамогу.

Нашае далейшае змаганьне за свабоду нашых народаў нам ня будзе так цяжкім, пакуль мы будзем пэўныя, што з гэтай непарушнай цытадэлі свабоды мы будзем чуць голас заступніцтва за нас. Асабліва гэта будзе вялікай маральнай падтрымкай нашага народу на бацькаўчшыне, якому мы маем сяньня тэхнічныя магчымасьці пераканаць усе нашыя радасныя весткі. Я ўяўляю, якою пацехай яму будзе вестка аб выказанай нам сяньня Вашай салідарнасьці. Магу запэўніць Вас, Высокапаважаны Спадар Старшыня, Спадарыні, Спадары, што ўдзячнасьць наша Вам застанецца незабыўнай.

Шчырае шчырае Вам дзякуй!

**(Працяглыя воплескі)**

Пасьля прамоваў пачаліся пачастункі, гутаркі ды бліжэйшае знаёмства гасьцей з Прэз. Абрамчыкам. Завязваліся жывыя й вельмі цікавыя размовы, што пратрывалі яшчэ каля паўтары гадзіны, і, пэўна-ж, кажны з зацікаўленых атрымаў адпаведныя інфармацыі, як ад сп-ра Прэзыдэнта, так і ад іншых Беларусаў, кажнага якіх пазьменна абступалі ці то Ангельцы, ці то нашыя бліжэйшыя й далейшыя суседзі.

Як прамова сп-ра Ормсбі Гор'а, гэтак і сп-ра Прэзыдэнта Абрамчыка —, прыняўшы пад увагу, тое, **хто** гаварыў і **дзе** — зьяўляецца адным з довадаў, што вялікая справа будаваньня незалежнасьці Беларусі пасоўваецца ўпэўненым крокам наперад.

Мы ня перабольшым значэньня гэтае падзеі, дзеля пэўных прычын сьціпла названай «прыняцьцем Ангельска-Беларускага Таварыства», якая мела месца 7 травеня 1956 году ў будынку брытанскага парлямэнту, калі назавем яе падзеяй гістарычнай.

Усе мы добра разумеем, што ў сяньняшніх абставінах найбольш патрэбна, каб палітычныя й культурныя вяршыні сьвету нас разумелі, ды каб далі нам маральную падтрымку, аб чым зь вялікім націскам і гаварыў у сваёй прамове Прэз. Абрамчык. Прыняцьце ў брытанскім парляманце і было тэй запраўднай маральнай падтрымкай на шляху змаганьня з камунізмам, на шляху змаганьня за волю й незалежнасьць Беларусі.

**Ч. С-ч.**

## «РЫЦАР ПАГОНІ»

(Заканчэньне з 3-яй бач.)

роў Камітэту заахвочваць яшчэ шпарчэй узяцца за пашырэньне беларускіх школаў. Пасьля неспадзяванай балючай страты, сьмерці «Цёткі» (Алёйзы Пашкевічанкі-Кайрыс), якая асабліва рупілася аб школах, Іван Луцкевіч далей прадаўжае яе працу. Ізноў Беларускі Камітэт рабіў захады й падаваў усё новыя мэмарыялы ў гэтай справе. Паўставалі гэтыя мэмарыялы ў бальшыні гэтак: Іван Луцкевіч распрацоўваў плян, ягоны брат Антон рэдагаваў ужо сам мэмарыял, пасьля сябры Камітэту на супольным паседжаньні яго прыймалі й тады я ўжо перакладала яго на нямецкую мову. Найчасьцей Іван Луцкевіч асабіста іх складаў у вадпаведнай установе. Беларускі Камітэт дасягнуў тое, што ягонае закладаньне беларускіх пачатковых школаў і вучыцельскіх курсаў у Вільні нямецкія школьныя ўлады пашырылі на ўвесь беларускі абшар і ў канцы 1916 г. закладаюць першую настаўніцкую сэмінарыю ў Сьвіслачы. Гэтак пад канец нямецкай акупацыі беларускіх школаў ужо можна было налічыць некалькі сотняў. (На жаль, за малымі вынятками, яны былі, пасьля заняцьця гэтых земляў Палякамі, зачынены).

(Заканчэньне ў наступным нумары)

**Юльяна Вітан-Дубейкаўская**

## 25 Сакавіка ў Амэрыканскім Кангрэсе

Зразуменьне вагі для лёсаў дэмакрацыі сьвету нясупыннага змаганьня Беларускага народу за сваю волю шпарка шырыцца сярод палітычных колаў Амэрыкі. Аб гэтым сьветчаць тыя ўрачыстыя праклямацыі з нагоды 25 Сакавіка, дня абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, якія выдаюць штогоду губэрнатары паасобных штатаў Амэрыкі. Гэтая зьява знаходзіць свой яскравы адбітак і ў Амэрыканскім Кангрэсе. Довадам гэтага водгук на 38-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР.

Сёлета пры нагодзе 25 Сакавіка ў Кангрэсе ў Вашынгтоне пытаньне незалежнасьці Беларусі падняло шэсьць кангрэсмэнаў. Іхныя сьветчаньні ў гэтай справе апублікаваныя ў афіцыяльным дзёньніку Амэрыканскага Кангрэсу, г. зв. „Congressional Record".

Першы з нагоды 25 Сакавіка ўзяў голас у Кангрэсе 15 сакавіка кангрэсмэн К. Заблоцкі зь Вісконсіну („Congressional Record" № 48). У сваёй заяве ён між іншым сказаў: «На працягу 38 гадоў беларускі народ церпіць пад таталітарным ціскам бязьлітаснага Крэмлёўскага камунізму. Ня гледзячы на гэта, Беларусы ніколі дабраахвотна ня прызналі камунізму, іхная прага свабоды не заглушаная. Як доўга існуе надзея на вызваленьне — дух волі жыве... Трэба, каб з нагоды 38-х угодкаў незалежнасьці (Беларусі) амэрыканскі народ падтрымаў гэтую надзею праз выражэньне свае рупнасьці аб беларускім паняволеным народзе й праз выказаньне нашай веры ў тое, што тыранія ня зможа гэтаму сьмеламу народу загаціць шляху да той свабоды, за якую ён гэтак адважна змагаецца.»

Другі кангрэсмэн Д. Флюд з Пэнсылвэніі 19 сакавіка заявіў (C.R.: № 48): «25 Сакавіка нашыя прыяцелі зь Беларусі абходзяць 38-я ўгодкі заснаваньня й незалежнасьці свае Народнай Рэспублікі... Ніколі беларускі народ ня прызнаў прымусова яму накінутага ўраду. Ён працівіцца яму ўсякімі магчымымі спасобамі. Ён ведае, што Беларуская Рада й Урад на эміграцыі вядуць далей змаганьне супраць камуністычнае агрэсіі для канчатковага вызваленьня й адбудовы беларускай дэмакратычнай і незалежнай дзяржаўнасьці.»

Кагрэсмэн В. Анфусо зь Ню Ёрку ў сваім асьветчаньні з 20 сакавіка (C.R. № 49) адцеміў між іншым: «Беларускі народ ня мае магчымасьці абходзіць гэтыя ўгодкі. Ён за зялезнаю заслонаю, дзе свабода ня прызнаецца, дзе сэнс і значэньне дэмакрацыі перакручваецца. Мы далучаемся да гарачага пажаданьня, каб вызваленьне беларускага народу ад яго прыгнятальнікаў прыйшло якнайхутчэй.»

Кангрэмэн К. Б. Кітынг, таксама зь Ню Ёрку, у сваім асьветчаньні з 26 сакавіка (C.R. № 53) асаблівы націск паклаў на справу масавага вынішчэньня культурных беларускіх кадраў бальшавікамі, на наглую русыфікацыю: «была гэта ў запраўднасьці акцыя культурнага народагубства», якая аднак не зламала духа народу... «Грамадзяне гэтага слаўнага краю ніколі ня прызналі камуністычнага панаваньня, і ўвесь час з надзеяю працавалі для таго дня, калі свабода будзе ізноў іхнаю. Мы мусім падтрымаць іх у гэтых натугах. ... Адзначаючы дзень абвешчаньня незалежнасьці. мы падбадзёрваем гэтым беларускі народ і даём да зразуменьня, што падтрымліваем ягонае няспыннае змаганьне за незалежнасьць.»

Кангр. Д. Д. Дынгель зь Мічыгану 29 сакавіка заявіў (C.R. № 56): «На шчасьце, тыя Беларусы, што жывуць на волі, а асабліва тыя, што ў нашым свабодным і гасьцінным краі, могуць адзначаць гэты памятны дзень, і мы ахвотна далучаемся да іх у ўгодкі дня іхнай незалежнасьці й да іхных мольбаў за тых Беларусаў, якія гэтыя ўгодкі могуць абходзіць сяньня толькі ўпотай.»

Кангр. Дж. Лесінскі зь Мічыгану 9 красавіка (C.R. № 57), падчыркнуўшы вялікую цягу беларускага народу праз усю ягоную гісторыю да дэмакрацыі, заклікаў: «Мы ў Амэрыцы ... павінны памятаць пра сваіх братоў з чужых краёў і не пакідаць іх на ласку тых дэспатычных валадароў, што зацьмілі й Джынгіс Хана.» Пры канцы свайго асьветчаньня кангр. Лесінскі зьмясьціў даўжэйшы інфармацыйны артыкул пра Беларусь, у якім этнаграфічны прастор Беларусі азначаны на прыблізна 150 000 кв. міляў, а лік жыхарства — на прыблізна 18 мільёнаў. У ім даецца кароткі агляд гісторыі Беларусі, абставіны паўстаньня Беларускай Народнай Рэспублікі, яе акупацыі пераважаючымі сіламі расейскага камунізму, ды дзейнасьці Рады БНР на эміграцыі.

Як можам бачыць ужо з гэтых кароткіх вытрымак, сакавіковыя заявы шасьцёх амэрыканскіх кангрэсмэнаў паказваюць нам на растучае сярод амэрыканскіх палітычных колаў зразуменьне важнасьці для будучыні Амэрыкі й сьвету справы вызваленьня паняволеных народаў, а між імі і народу Беларускага.

*Прышлі безадкладна падпіску на «Бацькаўшчыну» й заахвоць зрабіць гэта сваіх прыяцеляў і знаёмых!*

# Прысутныя госьці на Сакавіковых урачыстасьцях у Нью Ёрку

**Ад Рэдакцыі:** На просьбу нашага карэспандэнта зь Нью Ёрку, сп-ра К. Мароза, ніжэй падаем сьпіс прысутных гасьцей на ўрачыстасьцях 25 Сакавіка ў Нью Ёрку (папярэднія інфармацыі аб гэтым сьвяткаваньні гл. у «Б-не» № 15 і 16).

☆

Яго Эксцэленцыя др. Сьцяпан Вытвыцкі, Прэзыдэнт Рады Ўкраінскай Народнай Рэспублікі;

Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль, Архіяпіскап Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы на Чужыне;

Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Богдан, Архіяпіскап Украінскай Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы;

Яго Эксцэленцыя Япіскап H. Francis Wilkie D. D. — Auxiliary Bishop of New York;

Яго Эксцэленцыя Япіскап K. C. Pillai — Індыйскай Праваслаўнай Царквы;

Паважаны кангрэсман Нью Ёрку Francis E. Dorn;

Высокадастойны Рамкрышна Шагу Модак Д. Д. — Прэзыдэнт Фэдэрацыі нацыянальных цэркваў усяе Індыі;

Высокадастойныя айцы: Andre Penachio, Хв. Данілюк, І. Фэдына, Р. Мельнічэнка;

Кост Панківскій — Прадстаўнік Ураду Украінскай Народнай Рэспублікі;

Праф. І. Полівода ад Украінскага Дэмакратычнага Аб'еднаньня;

Вальтэр Душнык, прадстаўнік Украінскага Кангрэсавага Камітэту ў Амэрыцы;

Б. Навіцкі, Старшыня Галоўнай Управы «Добрус»;

Генэрал Загродзкі, прадстаўнік Украінскіх Вэтэранаў;

Mr. G. Storm — Executive Director of Holland—America Line;

Mr. A. Rotman, — прадстаўнік Амэрыканскіх Вэтэранаў Замежных Войнаў;

Сп. Вэрнон Каліян, прадстаўнік Амэрыканскага Камітэту Армэніі;

Др. Кляўдыюш Грабык, прадстаўнік Кангрэсовага Камітэту Палякаў у Амэрыцы;

Джордж Ерэменко, Старшыня Казацка-Амэрыканскага Нацыянальнага Аб'еднаньня;

Гамід Рашыд, прадстаўнік арганізацыяў Ідэль-Уралу;

Праф. Ветухів, Прэзыдэнт Украінскай Акадэміі Мастацтва й Навукі;

Сп. Гугай Салядын, прадстаўнік Паўночна-Каўкаскіх народаў;

Сп. Сп. Гібі Кобашыдзэ, А. Сулхан і Т. Г. Сар'е — прадстаўнікі Амэрыканскага Камітэту за Вызваленьне Грузіі;

Сп. М. Дэрпак, прадстаўнік Амэрыканскага Камітэту для Вызваленьня ад Бальшавізму;

Др. Ёзэф Паўчо і Д. Кветок, прадстаўнікі Славацкай Нацыянальнай Лігі;

Сп. Люцыян Райхгэрцэр, прадстаўнік Аб'еднаных Харватаў Амэрыкі;

Шматлікія прадстаўнікі амэрыканскай і іншанацыянальнай прэсы.

# Зь беларускага жыцьця

### Ў АНГЕЛЬШЧЫНЕ

**Даклад Прэзыдэнта Рады БНР сп. М. Абрамчыка**

6 травеня сёлета сп. Прэзыдэнт зрабіў даклад для лёнданскага аддзелу ЗБВБ у Беларускім Доме. У сваім дакладзе ён затрымаўся:

1) на сучасным стане нашае вызвольнае справы,

2) на новай тактыцы бальшавікоў пасьля XX-га зьезду камуністычнай партыі і

3) на суадносінах у вапошнім часе між Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад бальшавізму і Парыскім Блёкам.

У першым пункце Прэз. Абрамчык у вельмі пацяшаючай форме прадставіў слухачом дасягненьні, а асабліва — штораз большае зацікаўленьне вонкавага сьвету нашай вызвольнай справай. Ды ня толькі зацікаўленьне, а й штораз большае расшырэньне кола нашых сымпатыкаў сярод вельмі ўплывовых палітыкаў вольных народаў. Гэта было вынікам таго, што нашая, хоць і нялічная эміграцыя, выказалася ў вачох вонкавага сьвету сваёй прадуктыўнасьцяй. Як прыклад, сп. Прэзыдэнт падаў нашую шырокую выдавецкую дзейнасьць ды нашую палітычную актыўнасьць у шэрагах паняволеных Масквой народаў.

Новую бальшавіцкую тактыку Прэзыдэнт Абрамчык расцэньвае, як зьявішча сэзоннае: дэмакратычны сьвет незадоўга павінен пераканацца, што Хрушчоўскае «калектыўнае» кіраўніцтва ня прынясе такіх зьмен, каб супакоіць дэмакратычны сьвет.

Налгядаецца таксама значны прагрэс і ў суадносінах між Амэрыканскім Камітэтам для Вызваленьня ад бальшавізму і Парыскім Блёкам. Этапы тварэньня адзінага супольнага фронту з Расейцамі, ці навет двух асобных цэнтраў (расейскага і нерасейскага) зь нейкім супольным каардынуючым органам адыйшлі ў гісторыю. Амэрыканцы ўжо сяньня гэтага пытаньня не падымаюць. бо за апошнія пяць год тузаніны з Расейцамі яны пераканаліся ў бясплоднасьці такіх перамоваў. Імпэрыялізм расейскай эміграцыі выявіўся мацнейшым за іхны антыбальшавізм. Мы перакананыя, — казаў Прэзыдэнт, — што кажны аб'ектыўны Амэрыканец гэта выразна пачуў і пабачыў. Сябры Парыскага Блёку таму не шкадуюць страчанага часу на розныя канфэрэнцыі й перамовы з Расейцамі. Калі-б мы ўхіляліся ад такіх перамоваў, дык шмат-бы прайгралі. Споведзь Керанскага ў «Новым Рускім Слове» летась аб сваёй паразе зьяўляецца довадам гэтага.

Мы перакананыя, — заявіў Прэзыдэнт, — што Амэрыканскі Камітэт ня знойдзе цяпер накшага выхаду, як пачаць палітычную працу з Парыскім Блёкам асобна (зусім без Расейцаў). У гэтай плошчы цяпер і йдуць перамовы Парыскага Блёку з Амэрыканскім Камітэтам.

Прэзыдэнт Абрамчык прыехаў да нас на запросіны Ангельска-Беларускага Таварыства. Нам было вельмі прыемна бачыць яго ды чуць ягоны даклад.

**Дзе-ка**

### ДАКЛАД Д-РА В. Г-ЧА

Пераездам з Эўропы ў Амэрыку на пару дзён затрымаўся ў Лёндане сп. др. Г—ч. Лёнданскія Беларусы мелі вялікую прыемнасьць вітаць сп-ва Г—чаў пасьля доўгага нябачаньня аднаго з закладчыкаў і першага старшыні ЗБВБ. Сп-ва Г—чы прыехалі ў Лёндан з Парыжа 12 красавіка. У сыботу 14 красавіка быў зарганізаваны даклад і сьціплы пачастунак у Беларускім Доме. Сп. доктар зрабіў даклад аб працы Беларусаў у Нямеччыне, а асабліва аб дзейнасьці Беларускай Сэкцыі ў радыё «Вызваленьне». Запраўды важным і цікавым было даведацца аб тым, як вядзецца там праца — ня толькі із словаў былога кіраўніка Беларускай Сэкцыі, але й пачуць некалькі праграмаў із стужкі. Разумеючы даволі складаныя абставіны працы, мы з прыемнасьцяй праслухалі тыя праграмы, у якіх беларуская нацыянальна-вызвольная думка знайшла свае поўныя правы. Так, гэта праўда: Беларусы змагаюцца супраць камунізму разам зь іншымі паняволенымі народамі, але яны нідзе й ніколі не забываюцца пра свой абавязак — змаганьне за вольную й незалежную Беларусь. Дзень 25 Сакавіка, угодкі Слуцкага Чыну, вялікія хрысьціянскія сьвяты — усё гэта нагоды, зь якіх Беларусы карыстаюць справядліва й разумна. Такое наша ўражаньне было тут у Лёндане, слухаючы тут беларускія праграмы з найтраных стужак. Мы ня сумляваемся, што ўражаньне нашых суродзічаў за зялезнай заслонай яшчэ больш глыбокае.

Другую частку свайго дакладу сп. доктар зрабіў у Марыян Гаўз назаўтра, 15 красавіка. 16 красавіка сп-ва Г-чы йзноў паплылі за акіян. Шчасьці ім Божа ў далейшай працы!

**Дзе-ка**






**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**
**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.**